Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

23 красавіка 2004 года

№ 17 (468)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года




Тэлетыдзень 18

# У пісьменнікаў праблемы

## Але яны ўпарта не здаюцца

**МАЛАДЗЕЧНА. Нядаўна Саюз пісьменнікаў Беларусі (СПБ) атрымаў папярэджанне ад Міністэрства юстыцыі. Саюзу пісьменнікаў, па словах намесніка старшыні СПБ Барыса Сачанкі, пагражае ліквідацыя.**

Пра гэта і іншыя праблемы СПБ ён расказаў на творчай сустрэчы з маладзечанцамі. Яе і прэзентацыю новага літаратурна-мастацкага часопіса «Дзеяслоў» наладзілі 21 красавіка ў Палацы культуры літаратурна-краязнаўчае аб'яднанне «Агмень» і Цэнтр рэгіянальных ініцыятыў. На сустрэчу з намеснікамі старшыні СПБ Барысам Сачанкам (псеўданім Пятровіч), Эдуардам Акуліным і маладзечанскім бардам Лявонам Тышкевічам прыйшлі не толькі маладзечанцы, але і віляйчане.

Папярэджанне ад Мінюсту Саюз пісьменнікаў атрымаў, па словах Эдуарда Акуліна, за тое, што на будынку Дома літаратара ў Мінску вісіць шыльда старога ўзору з Пагоняй. Аднак, зазначыў Эдуард Акулін, гэты будынак больш не належыць СПБ, яго перадалі Адміністрацыі прэзідэнта. На яго думку, пра замену шыльды павінен паклапаціцца новы гаспадар. Мінюст таксама звярнуў увагу на тое, што пісьменнікі — сябры СПБ — несвоечасова плацяць складкі (узносы). Але пісьменнікам, растлумачыў Акулін, на 7-8 месяцаў затрымліваюць ганарары. «І патрабаваць з іх складкі мы не маем маральнага права», — сказаў ён.



Творчую сустрэчу з намеснікамі Саюза пісьменнікаў Беларусі Барысам Сачанкам (злева направа), Эдуардам Акуліным і маладзечанскім бардам Лявонам Тышкевічам наладзіла 21 красавіка літаратурна-краязнаўчае аб'яднанне "Агмень".

Фота Святланы ЦІШКО.

### Здабыткі і планы «Дзеяслова»

Прэзентацыю часопіса, які заснавалі 1,5 года таму Алесь Пашкевіч, Эдуард Акулін і Барыс Сачанка, распачаў яго галоўны рэдактар Барыс Сачанка. Па фармаце, аб'ёме і асноўных рубрыках за ўзор узялі «Полымя» канца 80-х гадоў. Назва, па словах Барыса Сачанкі, вельмі сімвалічная, яе можна ўспрымаць па-рознаму: дзея ў слове, дзе я ў слове. У часопісе, на думку яе рэдактара, павінны друкавацца ўсе вартыя творы, незалежна ад узросту, палітычных ці літаратурна-мастацкіх прыхільнасцяў іх аўтараў. Сёння аўтарамі «Дзеяслова» з'яўляюцца Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Уладзімір Някляеў, Святлана Алексіевіч, якія адмовіліся супрацоўнічаць з «Полымем», і іншыя пісьменнікі. Янка Брыль прынцыпова друкуецца толькі ў «Дзеяслове».

Галоўны рэдактар нагадаў, што набліжаецца юбілей — 80 гадоў з дня нараджэння Васіля Быкава. Аднак, на думку Барыса Сачанкі, «дзяржава не дужа спяшаецца адзначаць гэтае вялікае свята». Сістэма святкавання ў часопісах, растлумачыў ён, даўно адладжана: у друку з'яўляюцца невядомыя раней творы пісьменніка-юбіляра, успаміны пра яго. Пакуль што толькі «Дзеяслоў» друкуе Быкава (ён пакінуў памфлеты, прыпавесці, малюнкі, запісы розных гадоў) і пра Быкава: у №7 была аповесць «Афганец», у №8 — запісы розных гадоў, на дзявяты нумар запланаванае фантасмагарычнае апавяданне «Бутэльчына, або Прэзідэнт на дрэве», на дзесяты — прыпавесці і перапіска Быкава з Караткевічам.

На жаль, адзначыў Сачанка, «Дзеяслоў» пакуль што можна набыць толькі ў Мінску і на такіх творчых сустрэчах. «У Караткевіча ёсць апавяданне «Кніганошы», — падтрымаў яго Эдуард Акулін. — А мы кнігавозы. Таму што не толькі выдаём часопіс, але і рухаем яго ў народ».

Эдуард Акулін прэзентаваў на сустрэчы свае кнігі «Непрычалены човен» і «Радно». Зборнік «Радно» выйшаў у 2000 годзе, але ўвесь наклад (500 асобнікаў) быў пушчаны пад нож. Такі лёс напаткаў кнігу, па словах яе аўтара, за верш «Паэт», прысвечаны Нілу Гілевічу, у якім ёсць наступныя радкі: «пры гэтай уладзе, з уладаю гэткай як мала сапраўдных народных паэтаў». А Барыс Пятровіч (Сачанка) прачытаў урывак са свайго рамана, які складаецца з трох аповесцей-частак «Рай», «Чысцец» і «Пекла». Трыццаць гадоў задуманы даўно, але рай на зямлі аўтару даваўся шукаць вельмі доўга.

Падчас творчай сустрэчы Эдуард Акулін спяваў пад гітару свае песні, выступаў маладзечанскі бард Лявон Тышкевіч, а малады кампазітарка, навучэнка музвучылішча Вольга Воінская са сваёй сяброўкай Дар'яй Шаўчук выканала песню на верш Эдуарда Акуліна і падарыла аўтару тэкста ноты.

Напрыканцы прэзентацыі можна было набыць кампакт-дыск выбраных песняў Эдуарда Акуліна, асобнікі часопіса «Дзеяслоў», пачынаючы з №4.

Святлана ЦІШКО.

## Навіны рэгіёну

### Адключаць ваду

МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА. Пачынаецца апрасоўка цеплавых сетак. Ад 10 да 13 мая і з 24 мая па 3 чэрвеня не будзе гарачай вады на вуліцах Маўчанскага, Прытыцкага, Віленскага, Гелянове. У раёне Лясных, ад Віленскай да гарпарку, мікраёнах №1, 3, 4, 5, 6, 10, ЗПМ апрасоўка будзе з 10 да 24 мая. У Вілейцы – з 17 мая да 11 чэрвеня.

Ірына РАБУШКА.

### Купілі халадзільнікі

ВАЛОЖЫН. Два халадзільнікі "Атлант", якія абышліся ў 2 мільёны 100 рублёў, набыў аддзел адукацыі райвыканкама. Устанoўлены яны у Вішнеўскай і Івянецкай сярэдніх школах.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Гурт – юбіляр

ВІЛЕЙКА. У нарачанскім сельскім Доме культуры прайшоў юбілейны канцэрт гурта народнай песні "Крыніца", якому споўнілася 10 гадоў. Кіруе калектывам – Вадзім Шылко.

Марына СЛІЖ.

### Двойчы пераможца

МЯДЗЕЛ. Культарганізатар Дома дзіцячай творчасці Ада Русіновіч заняла 1-е месца ў намінацыі "Лепшае рэжысёрскае і мастацкае вырашэнне" ў абласным конкурсе "Гуляем разам" і стала дыпламантам аналагічнага агульнанацыянальнага конкурсу.

Марына СЛІЖ.

### Падпальшчыкі

АШМЯНЫ. У вёсцы Гардзіеўцы згарэла пуня. Гаспадыня пакінула ў хаце 4-гадовага ўнука. Хлопчык са сваім 6-гадовым сябрам знайшлі запалкі і пайшлі ў пуню: запальвалі іх і кідалі ў салому. Пакуль гаспадыня вярнулася, пуня згарэла. Падпальшчыкі жывыя.

Святлана ЦІШКО.

### Бібліятэка–навасёл

АСТРАВЕЦ. Дзіцячая бібліятэка пераехала з вуліцы Савецкай у памяшканне былога суда. Ранейшы яе будынак пойдзе пад знос, а на месцы яго плануецца разбіць сквер.

Марына СЛІЖ.

### Атрымалі грант

СМАРГОНЬ. Праект аб дапамозе пажылым і інвалідам аддзялення таварыства інвалідаў па зроку і Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання "Цёплы дом" атрымаў грант альянса "Партнёрства Каунтэрпарт". На выдзеленыя сродкі смаргонцы купілі 2 пральныя машыны-аўтаматы, парашок для іх, тканіну для 200 камплектаў пасцельнай бялізны.

Ірына РАБУШКА.

### Верныя кнізе

Што чытаюць беларусы? На гэта пытанне паспрабавала знайсці адказ карэспандэнт у Смаргоні Ірына Лугіна.



5-я старонка

### Прысуд сіроцтва

Прытулак, які знаходзіцца ў дзіцячым садзе №12 Вілейкі, даў дах над галавой 40 дзецям.



7-я старонка

### Часопіс «Волат»

Выданне вілейскай спартова–патрыятычнай ініцыятывы "Волат" цікавіцца краязнаўствам і гісторыяй Беларусі.




8-я старонка

■ ТЭАТР

## У нас ў гасцях Наталля Гайда і Марыя Захарэвіч

**МАЛАДЗЕЧНА. 27 красавіка (аўторак) у 19.00 на сцэне Мінскага абласнога драматычнага тэатра будзе паказаны спектакль "Я не пакіну цябе" М.Саймана. У спектаклі прымуць удзел народныя артысткі Рэспублікі Беларусь Наталля Гайда і Марыя Захарэвіч.**

Тэлефоны для даведак: 5-24-17, 6-17-32

**Валянціна ШЫКАВЕЦ.**

■ АНОНС

## У гасцях – «Песняры»

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёння, 23 красавіка, у вялікай глядзельнай зале Палацы культуры а 19-й гадзіне пачынаецца канцэрт ансамбля "Песняры".**

Кіруе калектывам ураджэнец Вілейкі Валерый Скаражонак.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ РАДЫЁ

## Падзяка за беларускамоўны эфір

**МІНСК. Грамадскае аб'яднанне «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» накіравала кіраўніцтву «Альфа Радыё» падзяку з нагоды з'яўлення ў эфіры станцыі навінаў на беларускай мове.**

Як паведаміў БелаПАН кіраўнік службы навінаў Іван Мірскі, у заяве, што накіравана ад імя старшыні ТБМ Алега Трусава, у прыватнасці, гаворыцца: «Дзякуй вам за ўкараненне і пашырэнне ў радыёэфіры мовы тытульнай нацыі, дзяржаўнай мовы краіны, дзе вы паспяхова працуеце. Спадзяёмся, што, як і раней, яна будзе гучаць у музычных праграмах, якія маюць свайго сталага і ўдзячнага слухача».

Нагадаем, што «Альфа Радыё» — адзіная камерцыйная радыёстанцыя, якая выкарыстоўвае ў эфіры беларускую мову. Навіны па-беларуску гучаць на станцыі тры разы на дзень. Па словах І.Мірскага, гэтыя блокі навінаў карыстаюцца поспехам.

**Паводле БелаПАН.**

■ ВЫСТАВЫ



На выставе маладзечанскіх мастакоў.

# Вясна для мастакоў

**МАЛАДЗЕЧНА. У цэнтральнай гарадской бібліятэцы цяпер праходзіць выстава маладзечанскіх мастакоў.**

**Кастусь Харашэвіч**... Можа, гэта цэлая эпоха, можа, рэальны шлях да кожнага... Класічная вытрыманасць, раўнавага, сюжэты з жыцця і для жыцця. Карціны гэтага аўтарытэтнага сталага творцы добра ўспрымаюцца. Ён – адзін з прадстаўнікоў рэалістычнай школы і праз свае шматгадовыя напрацоўкі пераносіць дух настаўніцтва ў дачыненне да моладзі.

**Мікола Аўчыннікаў.** Вандроўнік па свеце... Наш маладзечанскі Далі. "Тры фрагменты каляровых сноў пасля пленэру Язэпа Драздовіча". Ён удала і звышнатуральна спалучае рэалізм і абстрактнасць, таксама як і змешвае тэхніку акварэлі і жывапісу. У палотнах Міколы Аўчыннікава ўвасоблены зялёна–залатыя вясковыя палёты ва ўспамінах над рэчаіснасцю.

**Анатоль Акулік**, стваральнік "Вавілонскай вежы". Акрэслены сімвалізм, нестандартны падыход да матэрыялу, філасафізм... Ён паспявае пазначыць свае думкі сімваламі і намаляваць іх.

**Васіль Лазоўскі** бліжэй да імпрэсіяністаў (гэта па якасці атрымання ўражанняў ад прагляду карцін), але ў яго творы ўкладзены дасканалы філасофскі сэнс, які адчуваецца нават у назвах: "А дым зямны, як воблакі нябёсныя..."

**Рыгор Мяжуеў** (Рыгор Мяжа) у трансцэндэнтальных акварэлях, чырвоных, зялёных, сініх, пазалюстэркавых...

Роднасныя па душах **Іван Смалькоў** і **Генадзь Селядзец** звяртаюцца да неабсяжных родных мясцін, клічуць успомніць старажытнасць, сімвалізуюць гістарычныя падзеі і мясціны ў вобразах.

У нечым падобныя пейзажысты **Аляксандр Пясецкі** і **Галіна Сушко**. Іх багатая, амаль шыкоўная безліч фарбаў бязмерна радуе вока, тычыцца гэта зімовых эцюдаў ці веснавых замалёвак.



Людміла Летунова. "Мроі рыбака".

**Людміла Летунова** ўвасабляе мроі ў гуашы. Яе карціны такія светлыя, яскравыя і цёплыя, нібы адвоўшча дзіцячых сноў.

Глыбінная шматзнакавасць **Уладзіміра Тамашэвіча** і **Сяргея Крука** зацікавіць многіх, але толькі некаторыя зразумеюць іх творы, падобныя на гульні падсвядомасці.

**Ірэна Ханеўская** прадстаўлена тонкімі, выразнымі, нават пяшчотнымі ў сваёй загадкавай адкрытасці работамі. Крыху "японскай" тэхнікі нанясення тушы і фарбаў, крыху сваіх прадчуванняў – і цэлы сусвет у фармаце...

Нягледзячы на шматлікасць аўтараў, іх рознасць, выстава атрымалася цэласнай, светлай, энэргетычнай, бы веснавое сонца. Кожная з карцін – акно, накіраванае ў вясновы свет сэрца мастака.

**Таццяна ШЭЛЕГ.**



Людміла Летунова. "Блакітны нацюрморт"

Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

## Ну, а дачнікі – на дачу

Быў халодны лютаўскі дзень. А на вілейскім базары ўжо прадавалі насенне. Ружовымі, зялёнымі, бардовымі пакецікамі ў палатцы быў закладзены цэлы прылавак. "Купляюць?" — спытала прадаўца ў калматай шапцы і вялікіх цёплых валёнках. "Бяруць, — весела адказаў ён, — вясна ж хутка". Здаецца, я яму паверыла. Бо і сама не змагла адысціся ад палаткі без пакупкі.

Вечарам, выкладаючы з сумкі пакецікі з насеннем агуркоў, радыскі і кабачкоў, доўга разглядвала яркія абгорткі, ад якіх, здавалася, пахла сонцам і летам. "Мы сёлета зноў будзем садзіць радыску?" — спытаў муж. "Будзем!" — з выклікам у голасе адказала яму я і зарагатала.

Кожнае лета, выцягваючы з градкі за сакавітае бацвінне пераростую радыску, клянуся, што не буду яе больш ні садзіць, ні даглядаць. Але як толькі прыходзіць вясна наступнага года, абавязкова кідаю ў зямлю зярняткі культуры. Што ж за агарод без яе?

"Гэта ўсё ад нашай дурной натуры," — зазначыла неяк мая сяброўка, якая таксама мае моду сеяць салат, што ніхто не есць, садзіць рэдзьку, вялізныя плантацыі морквы, буракоў. У выхадныя, калі людзі бавяць час на рэчцы і ездзяць на пікнікі, яна, не разгінаючыся, поле гарод, запэўніваючы ўсіх, што на наступны год будзе разумнейшая і засее палову поля травой. Але як толькі прыходзіць вясна, зноў разбівае ўчастак на градкі. Маўляў, дзеці падраслі, мужу менш плаціць сталі, квартплата павысілася, глядзіш – да вясны ўсё падбярэцца.

Дача – дом у загараднай мясцовасці для летняга адпачынку гараджан. Так тлумачыць слова энцыклапедыя. У рэчаіснасці ж для большасці людзей — гэта месца, дзе даводзіцца працаваць да сёмага поту пасля напружанага працоўнага тыдня. Апрацоўваць, угнойваць кожны лапік зямлі, каб утыркнуць у яго некалькі лішніх каліваў капусты альбо расаду памідораў, вырашчаную ў кватэры на падаконніку.

Не важна, што з'явіцца пасля на тых кустах тры памідоры велічынёй з арэх, а на заканчэнні ўсё адно прыйдзецца купляць на рынку. Галоўнае — пасадзіць, выканаць, як кажа мой адзін добры сябар, праграму мінімум. Чалавек практычны, ён даўно ўжо падлічыў, што ад дачы адны страты. І калі зложыць разам грошы, што трацяцца на насенне, гной, аратага з канём, бензін для пастаянных паездак за горад, то гароднінай можна засыпацца з галавой.

Неяк сустрэліся на рынку. Сашка нёс, перакінуўшы цераз плячо, скрутак плёнкі. "Што рабіць будзеш?" — спытала ў яго сходу. "Цяпліцу! — хутчэй агрызнуўся, чым сказаў мужчына і, паказаўшы вачыма на цешчу, дадаў: "Лепшую агародніцу Маладзечна на подзвігі пацягнула. Хто на мора, хто на Вячу, а табе, Санёк, на дачу", — пашкадаваў сам сябе ён і шпаркім крокам пайшоў да выхаду.



**Разважала Марына СЛІЖ.**

■ КНІГА

# Бібліятэка самаадукацыі

**МІНСК. Выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі (БелЭн) пачало выпуск серыі «Энцыклапедычная бібліятэка самаадукацыі». Аб гэтым 12 красавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў загадчык аддзела маркетынгу выдавецтва Віктар Рабкоў.**

Паводле яго слоў, першай у серыі выйшла кніга вядомага французскага вучонага другой паловы XIX стагоддзя Жуля Пэйо «Выхаванне волі». Затым плануецца выдаць лекцыі вядомага індыйскага даследчыка Уільяма Аткінсана «Сіла думкі. Поспех у дзелавым і паўсядзённым жыцці» і сачыненне вядомага амерыканскага сацыёлага Лестэра Уорда «Псіхічныя фактары цывілізацыі».

У новую серыю, паводле слоў В.Рабкова, увойдзе прыкладна 30 твораў прыкладнога, духоўнага і асветніцкага характару па базавых кірунках сусветнай навуковай думкі. Мяркуецца, што кожны год будзе выдавацца ад 3 да 5 кніг серыі накладам прыкладна ў 3 тысячы асобнікаў. «Такі наклад з'яўляецца найбольш аптымальным, паколькі ён разлічаны на падставе заказаў распаўсюджвальнікаў кніг», — зазначыў В.Рабкоў.

Акрамя таго, паводле яго слоў, выдавецтва плануе выданне яшчэ адной серыі — «Гісторыя Беларусі ў манаграфіях, дакументах і літаратурных помніках». Прычым пачаткам серыі паслужыць бібліятэчка твораў вядомага беларускага гісторыка, этнографа і краязнаўцы Яўхіма Карскага.

«Выпуск гэтых серый выкліканы, у прыватнасці, тым, што напрыканцы гэтага года выдавецтва завяршае выпуск 18-томнай «Беларускай энцыклапедыі», выданне якой на 85 працэнтаў фінансуецца дзяржавай. Так што выдавецтва стаіць перад выбарам: альбо аб'явіць сябе банкрутам, альбо пачаць выпуск прыбытковых выданняў. Такімі выданнямі, на наш погляд, з'яўляюцца творы вядомых дзеячаў сусветнай навукі і культуры», — сказаў В.Рабкоў.

Сярод новых кніг, што плануе выдаць БелЭн, вядучы навуковы рэдактар выдавецтва Станіслаў Дубянецкі назваў рэспубліканскую кнігу гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць», трэцяе выданне Чырвонай кнігі Рэспублікі Беларусь, Энцыклапедыю беларускага спорту, а таксама 15-томную энцыклапедыю «Гарады і вёскі Беларусі».

**Паводле БелаПАН.**

■ ГРАМАДСКІ ТРАНСПАРТ

# На лініі – маршрутка

**МАЛАДЗЕЧНА. З пачатку года паслугамі маршрутнага таксі скарысталася больш за 120000 пасажыраў. У горадзе на 9 маршрутах працуюць 12 машын. Кошт праезду – 350 рублёў, што на 130 рублёў даражэй, чым у гарадскіх аўтобусах.**




7–ы маршрут адзін з найбольш папулярных у жыхароў Маладзечна. Прыпынак ля чыгуначнага вакзала.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

## Першыя рэйсы

Уладзіміра Стадольніка калегі з павагай называюць "дедушка". Ён 8 гадоў адпрацаваў на заводзе "Электрамодуль",вадзіцелем. У 1999 годзе выкупіў спісаны стары "рафік", адрамантаваў машыну. Так у Маладзечне з'явілася першая маршрутка, якая курсіравала паміж 6-м мікраёнам і вакзалам.

"Пачынаць было цяжка, — кажа Уладзімір, — людзі не адразу прывыклі да новай паслугі. Праезд тады каштаваў 60 рублёў, а ў гарадскім аўтобусе – 20. І пасажыры аддавалі перавагу больш таннаму транспарту. Было і такое, што на канцавым прыпынку каля чыгуначнага вакзала таксісты легкавушак зімой закопвалі ў снег пад колы дошкі з цвікамі. Прыйшлося праз выканкам атрымаць дазвол на абсталяванне пляцоўкі і ўстаноўку знака "Маршрутнае таксі". Сёння Уладзімір мае дзве машыны. Разам з напарнікам займаецца перавозкамі па прывычным 10-м маршруце. За поўны працоўны дзень вадзіцель робіць 13-15 рэйсаў. А стары "рафік", на жаль, ужо не адпавядае патрабаванням транспартнай інспекцыі.

## Як стаць вадзіцелем маршруткі?

**Як паведаміла Галіна Брылёўская, вядучы спецыяліст кіравання эканомікай гарвыканкама, для таго, каб стаць вадзіцелем маршруткі, неабходна быць прыватным прадпрымальнікам, мець правы катэгорыі "Д" і ліцэнзію Міністэрства транспарту. У машыне павінна быць больш за 8 пасадачных месцаў. Выканкам праводзіць конкурс маршрутаў. Перавагу аддаюць машынам пазнейшага года выпуску, з меншым прабегам і прывабным знешнім выглядам. З пераможцамі конкурсу заключаюць дагавор.**

Сёння ў горадзе не запатрабаваныя толькі тры маршруты: "адзінка", "чацвёрка" і "тройка". Пры гэтым на першыя два ўжо пададзеныя заяўкі на конкурс. Работу маршрутак кантралюе інспекцыя Міністэрства транспарту. Графік работы складае аўтапарк. "Мы стараемся ставіць маршруткі ў расклад паміж звалімі аўтобусамі, — гаворыць дырэктар Пётр Мамчыц. — Акрамя гэтага, вадзіцелі таксі праходзяць у нас перад выездам на лінію медыцынскі агляд, а машыну правярае механік".

Аднак, на думку вадзіцеляў, графік не адпавядае сярэднай хуткасці руху маршрутак, якая вышэйшая, чым у "Ікарусаў". І калі прытрымлівацца складзенага аўтапаркам раскладу, прыйдзецца альбо вельмі марудна ездзіць, альбо прастойваць на канцавых прыпынках.

## Зручна і нядорага

Кошт праезду ўстанаўліваюць самі прадпрымальнікі. І, па меркаванні пасажыраў, ён адпавядае якасці паслуг. Настаўніца беларускай мовы і літаратуры Ларыса Глод – пастаянны кліент маршрутак. "Я жыву ў раёне Зялёнага Гарадка, працую ў школе, у Насілаве, — кажа яна, — і кожны дзень езджу на работу на 11-м маршруце. Часта нават прапускаю гарадскія аўтобусы, каб дачакацца таксі. Хутка, утульна, а зімой – цёпла".

350 рублёў за адну паездку – самая танная цана гэтай паслугі ў рэгіёне. У суседняй Смаргоні, напрыклад, праезд каштуе 500 рублёў. Нягледзячы на тое, што прадпрымальнікі маюць права ўзнімаць кошт білета на 3% штомесяц, яны не спяшаюцца гэта рабіць. Даражаць сваімі кліентамі. Тым больш, што падаткі, якія яны плацяць, не залежаць ад кошту білета і колькасці пасажыраў. Ён фіксаваны і складае 60 еўра ў месяц.

Па словах Уладзіміра Стадольніка, у бліжэйшы час праезд даражаць не будзе. Гэта магчыма толькі ў тым выпадку, калі аўтапарк узніме кошт на білеты ў гарадскіх аўтобусах.

Адно з апошніх патрабаванняў інспекцыі Міністэрства транспарту – устаноўка касавых апаратаў у маршрутных таксі. Кошт такога апарата каля 500000 рублёў. Мэта – кантроль за абілечваннем пасажыраў. Не сакрэт, што пасажыры пры аплаце праезду не патрабуюць у вадзіцеля таксі білет. Але разам з тым трэба ведаць, што білет з'яўляецца дакументам, на падставе якога вы карыстаецеся паслугамі таксі.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 15.4 руб. | 22.4 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2153,00 | 2152,00 |
| Еўра | 2568,85 | 2544,63 |
| Злоты | 541,50 | 536,16 |
| Літ | 743,82 | 736,94 |
| Расійскі рубель | 75,22 | 74,40 |
| «Вулічныя» курсы ў Маладзечне | | |
| Долар | 2155/2170 | 2155/2170 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 14.4 | 21.4 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13830 | 13830 |
| Сасіскі, 1 кг | 5020 | 5020 |
| Селядзец, 1 кг | 2700 | 2500 |
| Рыс, 0,9 кг | 1100 | 1100 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1500 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1550 | 1510 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 530 | 530 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 1200 | 1200 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 850 | 900 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 800 | 850 |
| Капуста, 1 кг | 300 | 300 |
| Морква, 1 кг | 300 | 350 |
| Лімоны, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Апельсіны, 1 кг | 2300 | 2400 |
| Яблыкі, 1 кг | 1100 | 1000 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1,5 л | 900 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2300 | 2500 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2000 | 2000 |
| Сала, 1 кг | 3200 | 3300 |
| Бульба, 1 вядро | 2400 | 2300 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1100 |

■ СТАТЫСТЫКА

## Тэмпы прыросту ВУП зніжаюцца

**МІНСК. Прырост валавога ўнутранага прадукту Беларусі ў першым квартале 2004 года ў адносінах да аналагічнага перыяду мінулага года склаў 9,3 працэнта, паведамілі БелаПАН у Міністэрстве статыстыкі і аналізу (гадавы план — 9-10 працэнтаў). У студзені-лютым гэты паказчык складаў 9,5 працэнта.**

Прадукцыі прамысловасці выпушчана больш на 13 працэнтаў (план — 9-10). Выпуск спажывецкіх тавараў павялічаны на 11,9 (9-10), нехарчовых — на 14,2 (9-10), алкагольных напояў — на 10,9.

Прадукцыйнасць сельскагаспадарчай вытворчасці павялічана на 4,3 працэнта (9-11). Пры гэтым у сельскагаспадарчых арганізацыях яна узрасла на 8,7 працэнта, а ў гаспадарках насельніцтва і сялянскіх (фермерскіх) гаспадарках знізілася на 6,2 працэнта. Рэалізацыя жывёлы і птушкі (у жывой вазе) у сельгасарганізацыях павысілася на 4 працэнты, вытворчасць малака — на 14. Яек атрымана на 0,8 працэнта менш.

Аб'ём інвестыцый у асноўны капітал павялічыўся на 24,6 працэнта (план – 18-20). Пры гэтым у студзені-лютым гэты паказчык складаў 31,5 працэнта.

Уведзена ў эксплуатацыю 890 тысяч квадратных метраў жылля (2,7-3,2 млн.) — на 0,2 працэнта менш, чым у студзені-сакавіку 2003 года. У сельскай мясцовасці пабудавана 222 тысяч квадратных метраў — на 5,9 працэнта менш.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

# Вы жадаеце выехаць за мяжу?

**МІНСК. 16 красавіка ў рамках сумеснага праекта Еўрапейскага саюза і Праграмы развіцця ААН «Барацьба з гандлем жанчынамі ў Беларусі» адбылася прэзентацыя новай «гарачай лініі» па пытаннях бяспечнага выезду і знаходжання за мяжой. Прэзентацыю правялі прадстаўнікі Беларускай асацыяцыі маладых хрысціянскіх жанчын (БАМХЖ).**

Як паведаміла старшыня БАМХЖ Ірына Альхоўка, выступаючы ў рамках прэзентацыі, гэта першы «зялёны нумар» у краіне па аказанні сацыяльных паслуг. Размова ідзе пра новы тэлефонны нумар (8-801-100-8-801), званкі на які бясплатныя для любога абанента Беларусі. На думку І.Альхоўкі, увядзенне дадатковай і бясплатнай «гарачай лініі» дазволіць пашырыць доступ насельніцтва да інфармацыі па папярэджанні гандлю людзьмі, бяспечным знаходжанні за мяжой, па пытаннях працаўладкавання, правілах афармлення віз.

Ранейшы нумар «гарачай лініі» (295-31-67) застанецца, але на яго змогуць патэлефанаваць і з-за мяжы. Ананімнасць, якасць і графік працы застануцца ранейшымі, падкрэсліла І.Альхоўка. «Гарачая лінія» працуе штодзённа з 9 да 21 гадзіны.

Рэалізацыя праграмы «Ла Страда Беларусь» па прадухіленні гандлю жанчынамі ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе пачалася ў студзені 2001 года і завершыцца ў канцы 2005 года. Кошт праекта складае 900 тысяч еўра. За час работы кансультанты «гарачай лініі» прынялі 4.764 тэлефонных званкі. На аснове атрыманых званкоў можна зрабіць выснову аб тым, што найбольш папулярнымі краінамі выезду для беларускіх жанчын з'яўляюцца Германія, Кіпр і ЗША. Потым ідуць Італія, Ірландыя і Францыя. Усяго геаграфія выезду ўключае каля 60 краін, у тым ліку дастаткова экзатычныя для Беларусі — Йемен, Буркіна-Фасо, Малі, Перу, ПАР, Іарданію, Мексіку і Пакістан.

Паводле слоў кіраўніка арганізацыі, у патэнцыяльную групу рызыкі ўваходзяць беларускія жанчыны ва ўзросце ад 21 да 40 гадоў, якія хочуць паехаць за мяжу на заробкі або ў якасці жонкі. Пры гэтым многія з іх усведамляюць, што згаджаюцца на сумніўныя прапановы.

Часцей за ўсё тэлефануючых па «гарачай лініі» жанчын цікавяць пытанні працаўладкавання за мяжой і заключэнне або скасаванне шлюбаў з іншаземцамі, у тым ліку правы жонак і дзяцей у міжнародных шлюбах.

Паводле БелаПАН.



Калі вы сумняваецеся ў надзейнасці прапановы аб працаўладкаванні, можна папрасіць кансультацыю па бясплатным для любога абанента Беларусі тэлефоне 8-801-100-8-801

Фота ByMedia.Net

## Ушанавалі ветэранаў міліцыі

**ВІЛЕЙКА. У Вілейскім раённым аддзеле ўнутраных спраў прайшла сустрэча былых супрацоўнікаў, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, а зараз пенсіянераў, з намеснікам міністра ўнутраных спраў (МУС) Віктарам Філістовічам.**

Напярэдадні Дня Перамогі яны атрымалі не толькі віншаванні, але і падарункі – настольныя гадзіннікі ад МУС і памятныя адрасы і насценныя календары ад кіраўніцтва раённага аддзела ўнутраных спраў.

З сямі пенсіянераў на сустрэчу прыйшлі чацвёра: Віктар Барыванаў, Канстанцін Драгун, Фёдар Мамай, Міхаіл Карпаў, трое не змаглі па стану здароўя. Віншаванні і падарункі яны будуць прымаць дома.

Марына СЛІЖ.

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

**МАЛАДЗЕЧНА. 31-гадовы чысцінец на працягу 8 месяцаў вырабляў і прадаваў наркотыкі.**

Малады чалавек – наркаман. З макавай саломкі ён атрымліваў опіны экстракт. Раней чысцінец прыцягваўся да адказнасці за захаванне наркотыкаў. Узбуджана крымінальная справа.

**МАЛАДЗЕЧНА. У вёсцы Канюхі 58-гадовы мужчына параніў нажом сваю 34-гадовую нявестку.**

Адбылося гэта падчас распіцця спіртных напояў, пасля якога сваякі пасварыліся. Пацярпелая трапіла на бальнічны ложак.

**МАЛАДЗЕЧНА. Непаўналетні спрабаваў збыць падробленую 100-доларавую купюру ў абменным пункце ў гарадскім універмагу.**

Ні хлопец, ні бацькі, якія далі сыну гэтыя грошы на набыццё матацыкла, не ведалі аб падробцы.

**ВІЛЕЙКА. 19 красавіка адбылося дарожна-транспартнае здарэнне ў мястэчку Куранец.**

Матацыкліст не справіўся з кіраваннем і ўрэзаўся ў царкоўную агароджу. З цяжкімі цялеснымі пашкоджаннямі ліхач, які быў без шлема, дастаўлены ў бальніцу.

**ВІЛЕЙКА. Без сродкаў пакінуў пенсіянерку з вёскі Цярэшкі злодзей.**

Выкарыстаўшы момант, калі жанчыны не было дома, ён выкраў у яе 210 тысяч рублёў пенсіі. Супрацоўнікі аддзела ўнутраных спраў затрымалі ахвотніка пажыцца за чужы кошт. Узбуджана крымінальная справа.

Падрыхтавалі Ірына РАБУШКА, Марына СЛІЖ.

■ РЭХА ВАЙНЫ

## Снарады пры сядзібе

**МЯДЗЕЛ. 88 год прайшло з моманту правядзення падчас І сусветнай вайны Нарачанскай аперацыі, але яна дае пра сабе знаць і сёння.**

За некалькі дзён красавіка ў трох месцах на тэрыторыі Зарачацкага сельсавета знайшлі 4 снарады і адну гранату. Прычым у вёсцы Пронькі жанчына натрапіла на 2 снарады наўпрост на прысядзібным участку.

Аддзел інфармацыі "РГ".

■ СЛУЖБА – 01

## З сябра – у ворага

**Усё наша жыццё звязана з агнём, які за лічаныя секунды можа ператварыцца з сябра чалавека ў яго ворага. Толькі за тры месяцы ў горадзе і раёне адбылося 21 пажар, у якім загінула 5 чалавек. Але людзі мала задумваюцца над гэтай сумнай статыстыкай.**

Маладзечанскі гарраддзел па надзвычайных сітуацыях звяртаецца да ўсіх жыхароў горада і раёна з просьбай павысіць пільнасць, праявіць максімум асцярожнасці пры абыходжанні з агнём, не пакідаць сваіх дзяцей без прыгляду, захоўваць супрацьпажарныя правілы і нормы.

Усталявалася сухое і цёплае надвор'е, якое стварае ўсе перадумовы для надзвычайных пажарных сітуацый. З уводзіннем пажаранебяспечнага перыяду забараняецца заезд транспарту ў лясныя масівы і тарфянікі без патрэбы, курэнне, карыстанне адкрытым агнём, развядзенне кастроў, спальванне смецця на тэрыторыі жылых дамоў, прадпрыемстваў. Ваша бяспека — у вашых руках.

Наталля БЯЛЫХ, стажор цэнтра навучання правілам пажарнай бяспекі гарраддзела па надзвычайных сітуацыях, Маладзечна.

■ ПОСТ ДАІ

## Аперацыя «Аўтобус»

**Дзеля прафілактыкі аварыйнасці па пасажырскім транспарце з 21 па 30 красавіка дарожнай дзяржаўтаінспекцыяй праводзіцца комплекс мерапрыемстваў пад назвай "Аўтобус".**

Вадзіцелям аўтобусаў, а таксама маршрутных таксі ў гэты перыяд чакаюць асабліва пільныя праверкі медыцынскага стану, адпаведнасці катэгорыі вадзіцеля рабоце, якую ён выконвае, пуцявыя лісты.

ДАІ канстатуе, што вадзіцелямі аўтобусаў, асабліва маршрутак, ігнаруюцца патрабаванні Правілаў руху, тэхнічны стан транспарту не адпавядае патрабаванням.

Уладзімір ЛУКАШЫК, інспектар ДАІ, Маладзечна.

■ ТЭХНАЛОГІІ

## Цяпер не схлусіш. Дэтэктар хлусні на службе МУС Беларусі

**МІНСК. Акадэмія Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі — першая і пакуль адзіная ўстанова ў Садружнасці Незалежных Дзяржаў, што пачала ажыццяўляць перападрыхтоўку спецыялістаў на права правядзення апытання з выкарыстаннем паліграфа (дэтэктара хлусні) па дзяржаўных стандартах з выдачай дыпломаў устаноўленага ўзору.**

Як паведаміў БелаПАН прэс-сакратар Акадэміі МУС Андрэй Меліхаў, у склад першага набору слухачоў трапілі аператыўныя работнікі падраздзяленняў крымінальнага вышуку, якія спецыялізуюцца на раскрыцці злачынстваў мінулых гадоў. Усяго навучаецца 26 чалавек. Да ўдзелу ў вучэбным працэсе прыцягнуты расійскія спецыялісты ў галіне аператыўна-вышуковай псіхалогіі — стваральнікі школ паліграфалагаў і цэнтраў дэтэкцыі хлусні.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.


Дэтэктары хлусні самага рознага выгляду працуюць і ў спецслужбах, і ў кадравых службах бізнэсу, і ў крымінальным вышуку не першае дзесяцігоддзе. І ўвесь гэты час яны ўдасканальваюцца.

Фота з архіва "РГ".

■ НІШТО НЕ ЗАМЕНІЦЬ КНІГУ

# Верныя кнізе



Беларусы чытаюць не толькі ў бібліятэках, за пісьмовым сталом ці партай. Улюбёнае месца чытання для многіх – вагон электрычкі.

Фота Яўгена Стальмаха.

## Славяне чытаюць больш за іншых

**У тым, што кнігу не можа выцесніць ні ТБ, ні радыё, ні Інтэрнэт, я яшчэ раз пераканалася, калі наведала магазін "Кніжны свет", які знаходзіцца ў самым цэнтры Смаргоні.**

У магазіне мне расказалі, што смаргонцы – даволі актыўныя пакупнікі кніг. Штодзённа магазін рэалізуе да 200 адзінак кніжнай літаратуры, а пакупнікоў прыходзіць у 5-6 разоў больш. У "Кніжным свеце" я даведалася, што гараджане цікавяцца і класікай, і моднымі аўтарамі. З прылаўкаў на кніжныя паліцы смаргонцаў перасяляюцца творы ўсё тых жа Данцовай і Шылавай, Акуніна і Пікуля, Каэльо і Муракамі, якія ўваходзяць у дзесятку папулярных аўтараў не толькі Беларусі, але і ўсяго СНД. Фаварыт дзяцей – усё той жа зацёрты да дзірак Гары Потэр. На жаль, бывае, моднае – гэта далёка не заўсёды лепшае. Хутчэй, добра раскручанае.

Шмат хто са смаргонцаў купляе кнігі ў падарунак. Вялікі попыт і на падручнікі, часопісы, энцыклапедыі, розныя даведнікі.

Спецыялісты ў галіне беларускага кніжнага рынку гавораць пра змяненні. Гэта звязана з агульнай сітуацыяй у краіне, ды і з палітычнымі пераўтварэннямі таксама. Мяняецца час, мяняюцца густы кнігалюбаў. Аднак з памяці яшчэ не сцёрліся часы 1980-х, калі ў нашай краіне існаваў востры "кніжны голад": практычна любую больш ці менш цікавую кнігу дастаць было вельмі складана. Тады ж існавала шмат закрытых тэм і непажаданых аўтараў. Сёння дэфіцыту ў кнігах мы не адчуваем. Наадварот, у кніжных магазінах кожны можа выбраць літаратуру на свой густ (іншая справа, што цана не заўсёды задавальняе). Аднак якія б падзеі ні адбываліся, нязменным застаецца той факт, што славяне лічацца самай чытаючай нацыяй. Згодна з дадзенымі афіцыйнай статыстыкі, у Беларусі на аднаго чалавека даводзіцца 4,8 кніжкі. І гэта, зразумела, радуе.

Дык чаму ж у эпоху камп'ютэра і хуткасных тэхналогій мы застаёмся вернымі кнізе? Напэўна, таму, што ў яе старонак і пераплёту ёсць асаблівы пах. Яе можна доўга гартаць, разглядаць прыгожыя ілюстрацыі. Кантакт з кнігай нашмат лепш, чым простае счытванне інфармацыі. Кніга – аб'ект, з якім чытач уступае ў складаныя эмацыянальныя адносіны.

У кожнага з нас ёсць хаця б адна кніга, якую мы, да свайго сораму, не асілілі. Можа, нарэшце прыйшоў час запоўніць прабелы. Нярэдка людзі, што ўзялі на паліцах "Анну Карэніну" ці "Братьев Карамазовых", са здзіўленнем адкрываюць для сябе гэтыя творы па-новаму. Дарэчы, аўтар вядомага "Капитала" Карл Маркс любіў чытаць... некалькі кніг адначасова. Паспрабуйце самі – магчыма, у гэтым нешта ёсць...

Ірына ЛУГІНА.

**Лідэры па продажы кніг сярод смаргонцаў**
(па дадзеных магазіна «Кніжны свет»)

Мастацкая літаратура: **Акунін, Пікуль, Толкін;**

дэтэктывы: **Данцова, Шылава;**

дамскія раманы: **Фрэйзер, Бэлоу, Эшуорт, Сціл, Кінгслі;**

псіхалагічная літаратура: **Каэльо, Муракамі;**

дзіцячая літаратура: **Роўлінг, Успенскі**, серыя **«Раманы для дзяўчынак».**

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Байка пра фламастэр

Часам дзеці выказваюцца так, што дарослым трэба доўга тлумачыць самому сабе, што гэта азначае.

Аднойчы раніцай жонка збірае дачку ў дзіцячы сад. Тая ўставаць не хоча, бо ўвечары ніяк не хацела класціся спаць. Ужо ўключаны тэлевізар, каб раніншія мультфільмы разбудзілі. Але дачка ляжыць і не аказваецца.

Калі снеданне было пастаўлена на стол, жонка пачала ціхенька будзіць:

– Дачушка, сонейка, уставай! Малая і вачэй не расплюшчыла, пераварнулася на другі бок.

– Сонейка! Ты наша сонейка?

Дачка, якой пайшоў ужо шосты год, пацягнулася і адкрыла адно вочка. Пасля другое. Паглядзела на нас разумненькімі вачыма і... перакулілася на жывот.

– Сонейка! Ты ж нашае сонейка! Дачушка, уставай!

І тут малая ўзняла галаву, паглядзела на нас і незадаволена прабурчала:

– Сонейка, сонейка. Не сонейка я, а стары паламаны фламастэр!

Мы аж прыселі ад рогату, а яна, задаволеная, нетаропка пачала надзявацца. Ды яшчэ бурчэла сабе нешта пад нос.

Адкуль бяруцца гэткія асацыяцыі? Адкуль малыя нашыя ведаюць і добрае, і дрэннае? Ад дарослых, ад татаў, мамаў, дзядуляў з бабулямі і ўсіх астатніх. "А пры чым тут фламастэр?" – спытаецеся вы. На гэтае складанае пытанне адкажуць дзеці. Спытайцеся ў іх: маленькіх і цыбатых, чарнявых і русых, вясёлых і сумных. Але найлепшых на гэтай зямлі.

Алесь РАЛАВЕЦ.

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.iig.pl.**




# Ад Будслава да ГУЛАГа

Дабегла да жыта, зь якога, як з-пад зямлі, перарадзілі мне дарогу чырвонаармейцы. Трымаючы ў руках паперкі, сказалі: „Стой!" Затрымалася я й падумала: арыштаваная. Абудзілася знэрваваная — прадчула нешта страшнае.

Пайшла на працу. Зараз жа прыйшоў мой начальнік і сказаў, што мяне выклікаюць на тры дні ў Варшаву, нібы па службовых справах. Ведала я, што мяне там чакае. Магла не ехаць, кінуць працу й скрыцца ў вялікім Бэрліне, але гэтага не зрабіла. Калі не паеду, то забяруць Вэру, а як я буду адна жыць на волі, калі ўсе родныя будуць цярпець. Страціла зусім галаву, страціў яе Флёрэк. Паехала так, як стаяла. Тры дні яшчэ хадзіла па Варшаве, і 12 жніўня пад вечар у памяшканьні працаўніцы місіі Марты Цірбах мяне арыштавалі.

Помню, цэлы дзень падаў дождж. Прыйшоўшы на вуліцу Цэцыліі Сьнегоцкай, 10, мне вельмі хацелася выйсці на шпацыр у Лазенкі. Нікога не было дома, і я ўжо апранулася, каб выйсьці, як раптам вярнулася дамоў дачка пані Марты й здзівілася, што я ў такі дождж выходжу. Кажу ёй, што не магу ўседзець у хаце, так хочацца мне прайсьціся. А яна: „У такі дождж? Зусім здурэла".

І так я ня выйшла, а яна пакруцілася дома й зьнікла.

Празь некалькі мінут пастукалі ў дзьверы нейкія мужчыны, пытаючыся пра Ірку й просячы, каб іх упусьціць у хату.

Адчыніла я дзьверы. Пагутарыўшы крыху са мной, паказалі мне загад на мой арышт, кажучы: „Пані ест арэштована".

Думала, што зямля пада мною заваліцца. Які гэта страшны й цяжкі момант, якое страшнае слова „арыштавана".

### У турме

Павезьлі мяне ў турму, якая мясьцілася ў падвалах будынку Міністэрства Бясьпекі на рагу вуліцы Кошыковай і Алеяў Уяздоўскіх. Зрабіўшы рэвізію, адабраўшы сумачку, грабяні й іншыя дробныя рэчы, павялі мяне ў камэру, у якой знаходзілася ўжо адна жанчына. Звалася яна Люба, калі добра помню, прозьвішча не было Камінская. Гутарыла яна па-польску, але казала, што зьяўляецца румынкай. Сядзела яна ўжо 9 месяцаў. Яе пафарбаваны валасы адрасьлі й толькі канцы былі белыя, астатнія чорныя, як сажа. Вочы Люба мела таксама чорныя. На другі дзень прыйшла яшчэ адна маладая жанчына Нюся — прозьвішча ня помню. Была яна вельмі мілая й набожная, але тая Люба — аж пісаць ня хочацца! Як жа далася яна нам у знакі! Была проста немагчымая! Калі нам падавалі хлеб — яна яго хапала й дзяліла, бо толькі ў яе былі чыстыя рукі. Калі налілі ў міскі суп, яна хадзіла й доўга перабірала, каб узяць тую, у якую трапіў кусочак мяса. Вось любіла яна йграць у шашкі, якія мы зрабілі з хлеба, але ніхто ня сьмеў абыграць яе, бо злавалася тады й мсьцілася. Найбольш мяне абурала, калі нас пераявлі ў новую камэру, у якой сьцены былі запісаныя вязьнямі, яна не дала прачытаць нам ні слова. Схапіла мокрую анучку й адразу ўсе сьцены сьцерла. Таксама часта будзіла мяне ноччу — а так цяжка было заснуць — каб я перавярнулася на другі бок, бо ў твар ёй дыхаю. Камэра была малая, й спалі мы адны пры другой блізка. Як я пазьней ад іншых чула, гэта Люба была „стукачкай", г.зн. даношчыцай. Акенца ў камэры было маленькае, пры самай столі. У куце стаяў „кіпер", які вечарам выносілі ва ўмывальню на калідоры апаранжаць. На прагулкі нас не выводзілі, ні клікалі нікога на допросы. Мяне толькі раз пазвалі сьпісаць біяграфію. І так сядзелі мы дзень і ноч, не ведаючы чаго чакаючы.

Аднойчы прыйшлі рабіць у нашай камэры рэвізію. Вывелі нас зь яе й замкнулі кожную аддзельна ў іншай. Я трапіла ў вузенькую, маленькую сьмярдзючую камэру без акна. На зямлі ў ёй ляжаў сяньнік, а ў кутку стаяла параша „кіпер". Не было кавалачка месца, дзе можна было б прайсьціся. Усю камэру займаў сяньнік. Сядзела я на ім і думала: „Няўжо ў гэткай камэры людзей трымаюць? Гэта немагчыма! Тут і дня вытрымаць нельга!" І што я пасьля пачула: у такой жа камэры сядзела мая родная сястра Вэра, будучы цяжарнай. Арыштавалі яе ў той самы дзень, што й мяне, ва Уроцлаве. Адразу прывезьлі ў Варшаву й пасадзілі ў такі хлеўчык. Месяцам раней яна выйшла замуж. Гэта была яе першая цяжарнасьць. Прадчувала я, што яна ёсьць у Варшаве, бо аднаго дня, калі вялі нас мыцца ў лазьню, здавалася мне, што я пачула яе голас. Вось я й напісала заяву да начальніка турмы з просьбай, каб, калі ёсьць у турме мая сястра, даць ёй лепшыя ўмовы, беручы пад увагу яе цяжарнасьць. Пішучы заяву, мне і ў галаву не прыходзіла, што яна можа знаходзіцца ў такіх страшных абставінах.

Анеля КАТКОВІЧ.

Працяг будзе.

■ ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# Цячэ вада, а з ёй – бяда

Часы, калі вада, што выцякае з крана, была чыстая і празрыстая, даўно мінулі. Сёння людзі пачынаюць шукаць ёй замену.

Пачаткам забруджання вады ў шахтных калодзежах стаў 1960 год, менавіта ў гэты час быў кінуты заклік: "Гаспадаркам—хімізацыю". Пужала не колькасць угнаенняў, а тое, як іх уносілі. Спачатку па 40-50 кілаграмаў на гектар, а ў 1990-я гады — ужо па 250-300. Згубная колькасць азоту, фосфару, калію ператварыла раллю ў зону сярэдняга забруджвання. Расліны атрымлівалі толькі трэцюю частку ўгнаенняў. Астатняе ішло ў глебу.

Вынікам усіх гэтых празмерных старанняў сталі нітраты ў вадзе. Пры дапушчальнай канцэнтрацыі 45 міліграмаў на літр, у некаторых месцах пакачыкі вышэйшыя ў 3-6 разоў. Забруджаная вада ў шахтных калодзежах вёсак Краснае, Дубрава, Аляхновічы, Вязынка, Валодзькі, Дзякшняны. Са 140 даследаванняў, а іх правodзіла лабараторыя экалагічнага кантролю, патрабаванням не адпавядае большая палова. І гэта ў той час, калі дапушчальная норма таксама не з'яўляецца гарантыяй здароўя.



Здымак зроблены ў вёсцы Заазер'е Лагойскага раёна. Вясковыя жанчыны набіраюць ваду з ручая, дзе ўстаноўленае калодзежнае кальцо. Мясцовая санстанцыя вызначыла, што гэтая вада непрыдатная да піцця, але іншай мясцовым жыхарам не знайсці. Калонкі не працуюць. "Трохі балотам смярдзіць, а так нічога, халодная", – так ацаніў якасць вады з ручая адзін з мясцовых жыхароў.
У нашым рэгіёне, як паказваюць замеры цэнтраў гігіены і эпідэміялогіі, вада таксама часта не адпавядае патрабаванням санітарных нормаў. І людзі мусяць піць благую ваду. Фота ByMedia.Net

У Маладзечне сітуацыя іншая. Пры цэнтральным водазабеспячэнні выкарыстоўваюцца міжпластавыя воды, у якія вышэйназваныя злучэнні не трапляюць. Аднак у такой вадзе шмат жалеза, і без станцыі абезжалезвання вады не абысціся. Па лабараторных дадзеных, у артэзіянскіх свідравінах водазабору "Гелянова" утрыманне жалеза вагаецца ад 0,56 мг/дм³ да 1,7 мг/дм³ пры норме 0,3 грама. І такая вада праз сетку рэзервуараў напрамую паступае ў разводную сетку, бо станцыі абезжалезвання няма, як і ў населеных пунктах, дзе выкарыстоўваецца вада са свідравін.

Шкада сельскіх жыхароў, якія знаходзяцца ў становішчы без выйсця. Справа ў тым, што ў горадзе помпы працуюць пастаянна, а ў вёсцы такой колькасці вады не патрабуецца. Яе проста пампуюць у вежу, дзе адбываецца насычэнне жалезам. Акрамя гэтага, асцерагаючыся бактэрыяльнага забруджвання, прыбягаюць да хларыравання. У пачатку XX стагоддзя яно стала сапраўдным прарывам ў барацьбе з эпідэміямі халеры, тыфу, дызентэрыяй. І ўсё было б добра, каб не адна сумная заканамернасць, на якую звярнулі ўвагу толькі ў 70-я гады. З пачаткам хларыравання водаправоднай вады рэзка ўзрасла колькасць анкалагічных і сардэчна-сасудзістых захворванняў.

Магчыма, знойдуцца смельчакі і скажуць, што яд у малых колькасцях выпрацоўвае ў арганізме супрацьяддзе. Мы прывыклі піць такую ваду. І ці не будзе чыстая шкоднай для арганізма? Але мы павінны ведаць і тое, што нітраты паражаюць імунную сістэму, ператвараючыся ў арганізме ў нітразаміны, а гэта – мацнейшы канцэраген.

Спецыялісты лічаць: "Нітраты – наш Чарнобыль і СНІД адначасова". Павышаная колькасць жалеза паражае печань і крывяносную сістэму. Звязаны з арганікай хлор ператвараецца пры награванні ў яд – дыяксін, які мацнейшы за цыяністы калій ў 68 тысяч разоў!

Дзе ж выхад, спытаеце вы? У Маладзечне – у будаўніцтве станцыі абезжалезвання вады на водазаборы "Гелянова", замене водаправодных труб на трубы з антыкаразійным пакрыццём, правядзенне штогадовай прамыўкі сетак у жылых дамах і інш. Вядома, усё гэта за адзін год не вырашыць, але нешта рабіць трэба. Бо, каб мець добрае здароўе, неабходна карыстацца чыстай вадой.

Віктар БЕЛІК,
доктар-гігіеніст
Маладзечанскага цэнтра
гігіены і эпідэміялогіі.

■ ВОДГУК ЧЫТАЧА

## Піць нітраты?

**У "РГ" у нумары №7 ад 13 лютага быў надрукаваны артыкул "Небяспечныя калодзежы". Я згодны ўжываць ваду з такога пачварнага калодзежа, як на здымку, нават калі яна не апрацавана супраць бактэрый па методыцы, прыведзенай у публікацыі. Для гэтага яе трэба толькі пракіпяціць.**

Я не згодны ужываць ваду з калодзежа, у якім зроблена ўсё, што трэба супраць бактэрый, але там ёсць нітраты. Лепш узяць ваду з іржавай трубы і з дапамогай вядомых хатніх фільтраў давесці яе да жыццёвых кандыцый.

У добраўпарадкаваным і апрацаваным калодзежы нітратная вада такой і застанецца. У артыкуле сказана, што ў вадзе кожнага другога калодзежа перавышаная колькасць нітратаў, якая можа выклікаць кіслароднае галаданне ў дзяцей. Гэта прывяло мяне ў жахлівы стан. Знайшоў папулярную літаратуру па гэтай тэме, і жах узмацніўся.

Вось што сцвярджаюць навукоўцы: "Нітраты былі, ёсць і будуць побач з чалавекам, і ўжыванне доўгі час вады і ежы, багатай нітратамі, выклікае хваробы па звароту рэчыўа ў целе чалавека. Будзе і негатыўны ўплыў на органы, адказныя за нашчадкаў".

Ёсць і яшчэ адна вялізарная небяспека: калі ва ўжытку знаходзіцца посуд і прылады з алюмінію, то нітраты ўспрымаюць гэты матэрыял як каталізатар і ў выніку атрымоўваецца ў ежы і вадзе рэчыва больш страшнае і разбуральнае для чалавека.

Што рабіць? Я выключыў з ужытку ўсё, што было зроблена з алюмінію. А як абараніць сябе ад "добрага" калодзежа, у якім ужо ёсць нітраты звыш дазволенага ўзроўню?

Можа, шаноўны Сяргей Каравай падрабязна патлумачыць пра нітраты і дасць практычныя парады па барацьбе з імі?

Алесь ХАРЫТОН, Краснае.

■ ПАРАДЫ ДОКТАРА

# У паход усёй сям'ёй

**Дзе і як правесці выхадныя? Над гэтым пытаннем задумваецца ледзь не кожная сям'я. Хочаце падказку? На прыродзе.**

Часта бацькі пытаюцца, у якім узросце лепш за ўсё браць з сабой дзяцей у лес, на рыбалку, у паходы? Самы спрыяльны ўзрост — 6-8 гадоў. Менавіта ў гэты час дзяўчынкі і хлопчыкі атрымліваюць самае вялікае задавальненне ад фізічных практыкаванняў, і сямейны турызм тут дарэчы. Проста пры арганізацыі вольнага часу трэба ўлічваць узроставыя асаблівасці дзяцей. У іх яшчэ няўстойлівая цэнтральная нервовая сістэма, і перанапружанне пры высокай ступені актыўнасці да перанапружання адбываецца вельмі хутка.

Калі ў такім узросце сфарміраваць задавальненне ад паходаў, падарожжаў, то надалей дзіця само будзе падтрымліваць цікавасць да заняткаў фізічнай культурай і спортам. Яно яшчэ вельмі прывязана да бацькоў, і іх асабісты прыклад ўзаемаадносінаў фарміруе сцэнарыі ўласнага сямейнага жыцця.

Сабраць, вынесці, пагрузіць у машыну ўсю неабходную маёмасць, пры гэтым нічога не забыўшыся і не пасварыўшыся, можа толькі моцная і дружная сям'я. Збіраючыся ў дарогу, важна яшчэ ўлічыць патрэбы дзяцей у ядзе і піцці. Інакш яны робяцца капрызнымі і раздражнёнымі. Для такога ўзросту нехарактэрныя рэжымныя рэкамендацыі па харчаванні ў паходах. Не варта спяшацца сутыкнуць малечу і з цяжкасцямі. Дзіця павінна верыць у свае сілы і магчымасці, таму і задачы перад ім трэба ставіць пасільныя. А вось пра меры бяспекі расказаць варта. І, каб пазбегнуць траўмаў, навучыць карыстацца сякерай, пілой, нажом, агнём.

На прыродзе дзеці няўрэнна ўспрымаюць і асновы медыцынскіх ведаў аб прафілактыцы траўм, перагравання, пераахаладжэння, аб лекавых і ядавітых раслінах, што ім спатрэбіцца ў далейшым жыцці. А падтрымліваць бадзёрасць на працягу ўсяго дня дапамогуць рацыянальнае харчаванне і кароткатэрміновы адпачынак. Таму неабходна вызначыць аптымальны рэжым перакусаў і абедаў. Для прыгатавання апошняга лепш за ўсё выкарыстоўваць натуральныя прадукты, а не кансервы і канцэнтраты. Прывычка да хуткага харчавання, што цяпер актыўна рэкламуецца, прывядзе ў лепшым выпадку да гастрыту. А ў вашых сына альбо дачкі наперадзе яшчэ студэнцкія гады.



Лепшы адпачынак бацькоў і дзяцей – на прыродзе.
Фота ByMedia.Net

Непажадана браць у паходы чужых непаўналетніх дзяцей, асабліва калі паблізу ёсць вадаёмы. У такіх выпадках ім адпачываць лепш за ўсё са сваімі бацькамі, якія і будуць сачыць за іх правільнымі паводзінамі.



Доктар
Аляксандр ГУЛАК.

■ НАВІНЫ

## Чысцяць зубы па-новаму

**ВАЛОЖЫН. Школа №2 стала доследнай пляцоўкай па ўкараненні нацыянальнай праграмы "Прафілактыка карыесу зубоў і хвароб парадантозу".**

83 вучняў 4-5 класаў падзялілі на тры ўмоўныя групы. Першая чысціць зубы беларускай пастай "Лячэбная", другая – "З фторам", а трэцяя – даглядае за імі, як і раней. Кожныя два тыдні дзеці трапляюць на прыём да доктара-стаматолага Ганны Губкінай з кафедры дзіцячай стаматалогіі Белдзяржмедуніверсітэта. Яна і сочыць за станам дзіцячых зубоў.

Наталля ШТЭЙНЕР.

## Пагаршаецца здароўе

**МІНСК. За апошнія 10 гадоў паказчык захворвання дзяцей і падлеткаў у Беларусі значна вырас.**

Захворванне дзяцей да 14 гадоў з упершыню ў жыцці ўстаноўленым дыягназам павялічылася на 38,2 працэнта, падлеткаў да 17 гадоў — на 34,1 працэнта. Паводле БелаПАН.

■ УСПАМІНЫ

# Прысуд сіроцтва з правам на шчасце

**ВІЛЕЙКА. Сіротамі пры жывых бацьках дзеці становяцца часта. Прычынай таму гарэлка, якая замяняе іх мамам і татам і дом, і работу, і сям'ю. Вілейскім хлопчыкам і дзяўчынкам пашанцавала: разам з прысудам на сіроцтва яны атрымалі правы на шчасце.**

Сацыяльны дзіцячы прытулак быў створаны ў горадзе 29 жніўня 2003 года. Сваімі плошчамі з ім падзяліўся дзіцячы сад №12. А яго загадчыца, Святлана Карначова, стала загадваць дзвюма ўстановамі адначасова.

За час свайго існавання прытулак даў дах над галавой 40 хлопчыкам і дзяўчынкам. Нікога у дзіцячы дом не адправілі. Усім знайшлі прыёмныя сем'і. Чаму тут бясконца рады.

Зараз у прытулку жывуць дзевяць дзяцей. Старажылам лічыцца Павел. Ён тут ужо паўгода. "Закончу дзевяты клас, — дзеліцца хлопец, — паеду вучыцца ў Мінск. Там і жыць буду, у сястры. Яна старэйшая і зможа ўзяць мяне на апеку. Ей ужо і пакой асобны ў інтэрнаце паабяцалі".

Маці Паўліка памерла дзевяць гадоў таму. Бацька перажыў яе толькі на тры гады. І дзяцей, у хлопца ёсць яшчэ браты і сёстры, узяла да сябе бабуля. Летась не стала і яе. Застаўшыся адзін, ён перайшоў жыць да дзядзькі, затым папрасіўся ў прытулак.

Сірата цяпер і Ягор, маці якога памерла ў мінулым месяцы. "Святлана Уладзіміраўна купіла мне кветкі, — расказвае ён, — мы з'ездзілі, развіталіся з мамай. Цяпер вось чакаю, можа, хто возьме ў сям'ю і мяне". У прытулку ён даўно. Маці хлопчыка хварэла на сухоты, часта ляжала ў бальніцы. Ягора, хоць у яго ў Вілейцы ёсць сваякі, да сябе не ўзяў ніхто. У сем'ях хапае сваіх праблем. А бацькава радня дзесьці далёка, у Расіі.



Памочнік выхавальніка Вілейскага сацыяльнага прытулку Галіна Мажуль працуе ва ўстанове з дня адкрыцця. Дзеці любяць яе і не мінаюць выпадку вось так, як Маша, пасядзець на каленях. Фота Марыны СЛІЖ.

"Наша сям'я, — расказвае хлопчык, — жыла ў Магадане. Пасля татка памёр, і мама, застаўшыся адна, вырашыла вярнуцца на сваю радзіму, у Вілейку. Тут у яе жыла маці, іншыя сваякі. Яна прывыкла хутка, а ў мяне былі праблемы. Амаль што не ведаў беларускай мовы, таму застаўся на паўторны год у адным класе. Пасля ў мамы з'явіліся сяброўкі, якія прыходзілі ў госці з бутэлькай. Мяне забралі ў прытулак, яе — у бальніцу. Увесь час чакаў, што яна паправіцца і прыйдзе за мной. А 23 сакавіка сказалі, што мама памерла".

Коля і Юра ў прытулку — навічкі. "Брацікам, — расказвае памочнік выхавальніка Галіна Мажуль, — на дваіх 17 гадоў. Старэйшы яшчэ трымаецца, а вось шасцігадовы Коля часта плача. Сумуе па маме, сваёй вёсцы. Хоць было там ім холадна і галодна, але дом ёсць дом". Дзеці, як расказалі ў прытулку, прывыкаюць да новых умоў жыцця па-рознаму. Адны адразу ўліваюцца ў новую сям'ю, іншыя ходзяць ваўчкамі, цяжка прывыкаюць да выхавальнікаў і новых сяброў. Лячыць іх душы няпроста. У сваё 8-12 гадоў многія перажылі столькі, што ні кожнаму дарослаяму пад сілу.

У прытулку і сёння ўспамінаюць маленькую дзяўчынку, якая, сядаючы снедаць альбо абедаць, зажмурвала ад асалоды вочкі і з дзіцячай непасрэднасцю нараспеў казала: "Як смац-нень-ка. А заўтра таксама будзе". Доўгі час Таня жыла з выпівохай-маці, якая не толькі забывалася карміць дзіця, але і пакідала яе адну ў нятопленай, халоднай хаце. "У цябе цёпла?"— спыталася яна ў выхавальніцы, якая прыйшла забіраць яе з бальніцы ў прытулак. А пасля яшчэ ўсю дарогу заглядвала ў вочы і прасіла: "Дамоў не вядзі, там халадна".

Дзяўчынку ўзялі на апеку. Жыве з чужымі людзьмі, якія сталі ёй лепш за родных, чужую жанчыну называе "мама" і амаль ніколі не ўспамінае пра тую, што нарадзіла. І не толькі таму, што ў новай сям'і ёй ніколі не бывае холадна. Дзіця адчувае, што яго любяць, і плаціць сваім новым бацькам тым жа.

**Марына СЛІЖ.**

■ ШКОЛА ДЛЯ БАЦЬКОЎ

## Супакойце плаксу!

**Як весці сябе з дзіцем, якое плача па любой прычыне? Як супакоіць яго?**

Перш за ўсё пастарайцеся пазбегнуць любых крайнасцяў: не бяжыце да яго тут жа, каб супакоіць і ўсцешыць, але і не саромце малога, называючы плаксай. Падыдзіце да дзіцяці, спытайце, чаму ён плача, прылашчыце і спакойна пагаварыце з ім. Пастарайцеся пераключыць увагу дзіцяці на які-небудзь прадмет, што рухаецца, яркую цацку ці задайце яму нечаканае пытанне. Дзіця хутчэй супакоіцца, калі яму прыйдзецца думаць аб чымсьці іншым.

## Навучыце казаць "не"

**Вельмі важна навучыць дзяцей ветліва адмаўляць.**

Калі вы не дазваляеце згаджацца з вамі, устанаўлівайце з дзецьмі даверлівыя і адкрытыя адносіны, вучыце іх рэальна ацэньваць свае магчымасці. У той жа час дзіця павінна разумець, што бываюць сітуацыі, калі нельга адмовіць іншаму чалавеку ў просьбе.

## Практычныя парады для бацькоў

**Вы дакладна ведаеце прычыну хлусні, тады скажыце дзіцяці адразу, што вам усё вядома, не накідвайцеся на яго з пытаннямі-пасткамі.**

Калі дзіця само ўсведамляе, што сказала няпраўду, ні ў якім разе не карайце яго. Лепш падбадзёрце дзіця і скажыце: "Ты змог прызнацца, значыць, праўдзівы і больш нікога не будзеш падманваць. Малайчына! Мы ганарымся табой."

**Падрыхтавала Паліна ПРОЧКА.**

# Жыццё ў інтэрнаце

## Матэрыяльныя цяжкасці – прычына сямейных канфліктаў

**СМАРГОНЬ. Цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва "Цёплы дом" правёў сацыялагічнае даследаванне "Праблемы сямей, што жывуць у інтэрнатах".**

Анкетаванне ахапіла інтэрнаты, размешчаныя па вуліцах Юбілейная, 29, Юбілейная, 31, Сінкевіч, 7, Сініцкага, 2, Сініцкага, 6, Сініцкага, 8, Гагарына, 24, Чапаева, 11. У выніку высветліліся некаторыя асаблівасці сем'яў, што жывуць у інтэрнатах, іх праблемы.

Колькасць сем'яў, што маюць 1 дзіця, і колькасць сем'яў, што маюць 2 дзяцей, прыкладна аднолькавая. Сем'і, у якіх трое дзяцей, склалі 3,2%, а чатырох і больш – 1%. Самая шматлікая ўзроставая група дзяцей – да 10 гадоў.



Смаргонскія дзеці на ўскраіне горада. Фота ByMedia.Net, архіў "РГ".

Апытанне паказала, што ў 75% сямей тэрмін пражывання ў інтэрнаце супадае з узростам шлюбу. Значыць, засяліўшыся адразу пасля вяселля, сем'і не мянялі свае жыллёвыя ўмовы. У вялікай колькасці сем'яў узрост шлюбу больш за 10 гадоў. У гэтую групу ўваходзяць дзеці, у якіх муж ці жонка (або абодва) другі раз у шлюбе (12%). Ажаніўшыся другі раз, яны працягваюць жыць у інтэрнаце, як і ў першым шлюбе. Высветлілася таксама, што 76% апытаных сем'яў не могуць змяніць свае жыллёвыя ўмовы ў бліжэйшыя некалькі гадоў. Такім чынам, шмат якія сем'і вымушаны жыць у інтэрнаце доўгі час.

Аднак самай важнай варта лічыць матэрыяльную праблему: высветлілася, што прыкладна ў палове апытаных матэрыяльнае становішча нестабільнае, а ў трэці – цяжкае і крытычнае. Асноўныя крыніцы даходаў сем'яў, што жывуць у інтэрнатах, – зарплата і розныя дапамогі.

Матэрыяльныя цяжкасці аказаліся на першым месцы сярод прычынаў сямейных канфліктаў. Акрамя таго, прычынамі ўзнікнення сямейных канфліктаў апытаныя назвалі арганізацыю дамашніх спраў, пытанні выхавання дзяцей, несумяшчальнасць інтарэсаў мужа і жонкі. Варта адзначыць і праблему п'янства, якое таксама часта становіцца прычынай сварак.

Апытанне паказала, што 82% дарослых хочуць, каб для іх і іх дзяцей у інтэрнатах ладзілі якія-небудзь мерапрыемствы ў дадатак да тых, што ўжо праводзяцца. Найбольш запатрабаванымі аказаліся кансультацыі юрыста і псіхолага, трэнінгі для дзяцей, падлеткаў і моладзі, гуманітарная дапамога і арганізацыя работы клубаў па інтарэсах.

Гэтае даследаванне дапамагло выявіць найбольш вострыя праблемы сем'яў, што жывуць у інтэрнатах. У выніку сфарміраваны канкрэтныя запыты для спецыялістаў па рабоце ў інтэрнатах.

**Аксана КУЗЬМІЧ, сацыёлаг цэнтра «Цёплы дом».**

■ УСПАМІНЫ

# Жыве ў памяці людзей

## Аповед пра лекара, якога ведалі ў Занарачанскім краі ўсе

Час пакідае нам імёны тых, хто пайшоў з жыцця. Калі паміраюць паважаныя людзі, удзячная памяць не дае ім знікнуць. Гэта адзін з вялікіх законаў бессмяроцця.

Мне, аўтару гэтага артыкула, у першыя гады сваёй доктарскай практыкі ў сярэдзіне 1950-х лёс даў магчымасць пазнаёміцца і разам працаваць у Занарачанскай бальніцы Мядзельскага раёна, затым на працягу ўсяго жыцця падтрымліваць шчырае сяброўства з фельчарам **Уладзімірам Лук'яновічам**, добрым спецыялістам і рэдкай дабрыні чалавекам. Яго няма ў жывых. Сёлета 17 сакавіка яму споўнілася б 77 гадоў.

У Занарачанскім краі яго ведалі ўсе, аб ім гаварылі і ўспамінаюць цяпер з вялікай цеплынёй і сардэчнасцю. Яго памятаюць як ветэрана сельскай аховы здароўя, як цудоўнага спецыяліста. Уладзімір Лук'яновіч належаў да тых, для каго вернасць свайму прафесійнаму абавязку з'яўлялася галоўнай жыццёвай мэтай. Ён імкнуўся дапамагаць людзям, і яны гэта адчувалі: ішлі да яго, у яго прасілі парады і дапамогі. У адносінах з людзьмі заўсёды быў вытрыманым, ветлівым, уважлівым. Працоўныя дні сельскага фельчара – гэта паўсядзённы подзвіг. У мароз, у завіруху, у летнюю спякоту ці дождж і ці то раніцай, позна вечарам, ноччу ён крочыў да хворага. Справу сваю рабіў адказна, ніколі не скардзіўся на цяжкасці. Аказваў дапамогу ўсім, выконваў абавязкі акушэра. Ён ведаў кожную сям'ю, з'яўляўся як бы сямейным доктарам.

За плённую працу ў сістэме аховы здароўя Уладзімір Лук'яновіч неаднаразова ўзнагароджваўся граматамі, медалямі, атрымліваў шматлікія вусныя, у пісьмах і праз раённую газету падзякі ад насельніцтва.

Уладзімір Сцяпанавіч быў добрым сем'янінам. Яго жонка, Ніна Сямёнаўна, працавала медсястрой, а для мужа была дарадчыцай. Яны выгадавалі трох сыноў, усе атрымалі вышэйшую адукацыю.



**Уладзімір Лук'яновіч. Фельчар, для якога не было розніцы – стаіць на двары добрае надвор'е, спякота альбо лютуюць маразы. Ён заўсёды прыходзіў на дапамогу людзям Занарачы і наваколля.** Фота з музея гісторыі медыцыны Маладзечаншчыны.

Ніна Сямёнаўна – аматар вырошчвання кветак. Яе кветнік – адзін з лепшых і прыгажэйшых у Занарачы. Не шкадуе ні сіл, ні часу, каб толькі з вясны да позняй восені перад іх домам усё цвіло, зелянела і радавала людзей.

Успамінаецца смешны выпадак з далёкага мінулага. У Занарачанскую бальніцу прыязджае намеснік міністра аховы здароўя БССР. Яго аўтамабіль ("козлік", брызентавы кузаў) уважліва разглядаюць дзеці. Калі госць накіраваўся да машыны, 5-гадовы сын фельчара Лук'яновіча Саша пытаецца ў яго: "Дзядзька, а чаму у цябе машына зроблена з ануч?".

Свае цікавыя і павучальныя ўспаміны, дакументы Уладзімір Сцяпанавіч перадаў музею медыцыны Маладзечаншчыны.

Найлепшы суддзя час. Ён дазваляе пражытае прааналізаваць больш аб'ёмна, параўнальна. З гонарам, без перабольшвання магу сцвярджаць, што па ўсіх якасцях медыцынскай дзейнасці і чалавечага жыцця ў асобе Уладзіміра Лук'яновіча адлюстраваўся надзелены ад бога зборны вобраз сельскага фельчара ў гісторыі медыцыны другой паловы XX стагоддзя. Яго імя павінна быць упісана ў ёй яркай старонкай.

**Франц СВІТО,**
**кандыдат медыцынскіх навук,**
**загадчык музея гісторыі медыцыны Маладзечаншчыны.**

■ КАЛЯНДАР

**23 красавіка. 70 гадоў з дня нараджэння (1934) Уладзіміра Конана**, беларускага філосафа, гісторыка, літаратурнага крытыка, літаратуразнаўца.

**24 красавіка. 60 гадоў з дня нараджэння (1944) Зянона Пазняка**, беларускага мастацтвазнаўца, археолага, грамадска-палітычнага дзеяча.

**25 красавіка. 100 гадоў з дня нараджэння Васіля Барысенкі** (1904-1984), беларускага літаратуразнаўца, крытыка, акадэміка АН Беларусі.

**25 красавіка. 75 гадоў з дня нараджэння Барыса Льдокава** (1929-2002), беларускага жывапісца.

**25 красавіка. 75 гадоў з дня нараджэння (1929) Ірыны Паньшынай**, беларускага мастацтвазнаўца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**26 красавіка. Дзень Чарнобыльскай трагедыі.**

**26 красавіка. 105 гадоў з дня нараджэння Іллі Гурскага** (1899-1972), беларускага пісьменніка, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

**26 красавіка. 75 гадоў з дня нараджэння (1929) Людмілы Мягковай**, мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**26 красавіка. 75 гадоў з дня нараджэння (1929) Юрыя Туронка**, гісторыка. Жыве ў Польшчы.

**28 красавіка. 65 гадоў з дня нараджэння (1939) Зінаіды Бандарэнкі**, дыктара тэлебачання, народнай артысткі Беларусі.

**29 красавіка. 75 гадоў з дня нараджэння (1929) Віталя Галавача**, беларускага пісьменніка.

■ ДРАМАТУРГІЯ

# У пошуку мецэнатаў

**МІНСК. Вядомы беларускі драматург Алесь Петрашкевіч шукае мецэнатаў, якія дапамаглі б выдаць двухтомнік яго гістарычных п'ес.**

У інтэрв'ю БелаПАН літаратар паведаміў, што за 20 гадоў творчасці ён напісаў 15 п'ес, прысвечаных гісторыі Беларусі ў дзеючых асобах. «І атрымалася тысячагадовая трагедыя. Мне хацелася б прадставіць яе масаваму чытачу ў дзвюх кнігах — «Супрацьстаянне» і «Вынішчэнне», — сказаў драматург.

Паводле яго слоў, у першы том увойдуць п'есы «Гора і слава», «Усяслаў Чарадзей», «Расплата за здраду», «Напісанае застаецца» і «Прарок для Айчыны», прысвечаныя дачцэ Полацкага князя Рагвалода Рагнедзе і хрышчэнню Беларусі, узлёту магутнасці незалежнага Полацкага княства ў другой палове XI стагоддзя, здрадзе князя Міхаіла Глінскага, а таксама лёсу і творчасці Францішка Скарыны.

У другі том выдання А.Петрашкевіч плануе, сярод іншых, уключыць п'есы «Час усё адкрые», «Царска-каралеўская пастка», «Рупнасць дзяржаўцы», «Развітанне з Радзімай», «Рыцар свабоды», «Апошні збройны чын» і «Наканавана быць прарокам», якія адлюстроўваюць напад на Беларусь 100-тысячнага войска маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча, заключэнне уніі Вялікага княства Літоўскага з Польскім каралеўствам, дзейнасць канцлера ВКЛ Льва Сапегі, трагедыю трох раздзелаў Рэчы Паспалітай і антыцарскіх паўстанняў, якімі ў Беларусі кіравалі Якуб Ясінскі і Кастусь Каліноўскі, падзеі Слуцкага ўзброенага паўстання 1920 года, а таксама гісторыю пачатку сталінскіх рэпрэсій 30-х гадоў мінулага стагоддзя і лёс народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.

Завяршае двухтомнік п'еса «Маналог беларускі», якая пасля 70 гадоў жыцця ў савецкай Беларусі трапіла ў чарнобыльскую бяду.

Паводле слоў А.Петрашкевіча, усе яго творы, у якіх прадстаўлены вышэйшыя слаі беларускага грамадства, носяць палітычны характар. «Рэдактар маіх сачыненняў, вядомы беларускі вучоны, доктар гісторыі Анатоль Грыцкевіч лічыць, што па маіх п'есах можна вывучаць гісторыю Беларусі», — сказаў драматург. Паводле яго слоў, ён «нідзе не дапускаў домыслу, а спрабаваў знайсці сапраўдныя гістарычныя сюжэты, на аснове якіх і напісаны п'есы».

Дарэчы, апошнюю кнігу А.Петрашкевіча «Здрапежаная зямля», выдадзеную ў Мінску УП «Тэхнапрынт» на сродкі аўтара накладам усяго ў 250 асобнікаў, можна набыць у сталічнай штаб-кватэры рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» (Румянцава, 13).

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

■ ДРУК

# Часопіс вілейскіх асветнікаў

"Волат" – новае выданне, што пабачыла свет у Вілейцы накладам 299 асобнікаў. Фармат першых нумароў, якія распаўсюджваюцца бясплатна, — 12 старонак А3 (памер стандартнага ліста, напалову ад старонкі "Рэгіянальнай газеты"). Рэдактар – **Аляксей Сюдак**. Вярстае **Міхаіл Кулеш**.

І хаця выданне вілейскай спартова-патрыятычнай ініцыятывы "Волат" выдаецца ў Вілейцы, відавочна, што змест, характар часопіса – усебеларускі. Таму і напрыканцы аднаго з нумароў змешчаны зварот рэдакцыі: "Запрашаем да супрацоўніцтва аўтараў, якія займаюцца краязнаўствам і гісторыяй Беларусі".


Беларусь учора, сёння, заўсёды!

# ВОЛАТ

Ён да апошняй хвіліны думаў пра цябе

140 год паўстанню Каліноўскага

Ліст з-пад шыбеніцы

Чым жа вылучаецца змест часопіса? Зазірнём, прыкладам, у лютаўскі нумар. Ён адкрываецца артыкулам славутага пісьменніка **Генадзя Бураўкіна** "...І будзем жыць!" (паэта, які ў сённяшні час займае адмысловую, смелую грамадзянскую пазіцыю па ўсіх пытаннях жыцця. Шмат у чым ідзе наперадзе, у авангардзе). Матэрыял напісаны, між іншым, спецыяльна для "Волата". Невялікая цытата: "Абсмяяная ў сваёй краіне недавучанымі манкуртамі, загнаная бяздарнымі чыноўнікамі ў ганебную "культурную рэзервацыю", нахабна выкінутая мястачковымі авантурыстамі з экранаў тэлевізараў і канцэртных падмосткаў, яна здзіўляе свет то раптоўным выплескам песеннага быцця, то ашаламляльнымі літаратурнымі адкрыццямі. Яе любоўна ашчаджаюць нацыянальныя пракокі і высока ўзнімаюць на сцягах непахісныя юнакі і дзяўчаты...".

Пэўна ж, і адметнасцю мясцовага друку павінна стаць выступленне ў ім Паэтаў і Грамадзян **Рыгора Барадуліна, Міхася Скоблы, Кастуся Цвіркі, Алеся Пашкевіча, Эдуарда Акуліна**...

Друкуе "Волат" і традыцыйны для многіх асветніцкіх выданняў "Каляндар". У лютаўскім нумары – пачатак артыкула выкладчыка гісторыі Вілейскага ПТВ-48 **Валерыя Рогача** "Камяні як гістарычныя помнікі Вілейшчыны". Энцыклапедычна сціслая нататка **Алеся Звона** "Браты Козел-Паклеўскія" – пра ўдзельнікаў паўстання 1863-1864 гадоў. "Магіла паўстанцаў каля в.Уладыкі захавалася, скаўты з г.Маладзечна ўсталявалі там крыж. Сябры СПІ "Волат", калі знаходзяцца ў вандроўцы ў тых мясцінах, заўсёды збочваюць з маршруту, каб ушанаваць памяць аб героях", — піша Алесь Звон.

Фотарэпартаж "Волата" "Чорны замак Гальшанскі запрашае гасцей" – пра адкрыццё ў Гальшанскай сярэдняй школе краязнаўчага музея імя Эдуарда Корзуна. Лагічна, відаць, было б нагадаць, хто ж гэта – Эдуард Корзун. Ды і ў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" няма пра яго асобнага артыкула. Толькі – згадка ў агульным артыкуле "Краязнаўства" і некалькі спасылак на яго. Эдуард Корзун – краязнаўца з вёскі Гальшаны Ашмянскага раёна, аўтар цікавай кнігі "Гальшаны".

Асобна прадстаўляе "Волат" **Вінцэнта Жук-Грышкевіча** (артыкул Аляксея Сюдака, друкуецца частка кнігі В.Жук-Грышкевіча "25 сакавіка", у прыватнасці – "Успаміны. У Менску". На "Старонцы патрыятычнай творчасці" – знаёмства з **Алесем Наркевічам** і яго вершамі.

Няма ніякіх сумненняў, што з часам "Волат" зойме сваю істотную "нішу" ў чытацкім асяроддзі".

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ВІНШАВАНКІ

У дзень нараджэння для
**Лілії Міхайлаўны Бартош!**
**Её Величество Любовь**



Ещё вчера тебя не знал,
И жил, и верил, и страдал,
Хотел иметь, хотел любить…
Но циник в спину продолжал твердить:
Зачем тебе любовь,
Зачем надежда,
Зачем добро творить…
Живи, как все, живи и рви,
Живи и в грязь топчи...
Но в жизни не бывает только ночь,
Луч света вырвался...
И гонит, гонит её прочь.
Вначале это только света проблеск,
Потом надежды малый всплеск,
Потом... сильней, увереннее свет,
Три буквы «Л» сплелись в буклет,
И наконец – любви твоей господства век!
А в жизни всё так сложно,
Бывает, буквы совпадают,
Счастливый смысл неся,
И вот – Её Величество Любовь меняет всё и вся!
А буква Л несёт и полноту надежд,
А буква Л несёт и полноту добра,
И буква Л несёт всю жизнь сполна.

*Ад Леаніда Федасеевіча Посахава.*

**Святлану Кулагу**, самую абаяльную і прывабную, віншуюць настаўнікі гімназіі №1 "Логас". Здароўя, аптымізму, удачы, *Валодзя, Стас, Раман.*

**Марыю Сільвестраўну Якубель** віншуем з юбілеем. Жадаем здароўя, шчасця, удачы ў жыцці, сямейнага дабрабыту. *Ніна, Лёша, сыны і ўнукі.*

**Наталлю Люковіч** віншую з днём нараджэння! Здароўя, шчасця, кахання і удачы. *Рэгіна.*

**Святлана Саўлевіч**! Сонейка, віншую цябе з днём нараджэння! Здароўя, шчасця і кахання! *Рэгіна.*

**Людміла Пракаповіч**! Зайка, віншую цябе з днём нараджэння! Здароўя, удачы, кахання. *Рэгіна.*

**Мар'ян Дземашкевіч** з Княгініна! Дарагі кум і добры сябар, віншую цябе з днём нараджэння! Здароўя, шчасця і удачы! *Рэгіна Ляпцюк.*

**Ганну Пятроўну Пескавую** віншуем з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя і прыгажосці. *Дочкі, зяці і ўнукі.*

## Кінатэатр «Радзіма»

**23-25 красавіка. "Валадар кольцаў-3: вяртанне караля"**, ЗША, 2 серыі – у 14.00, 17.30 і 20.00.

### Для дзяцей

**24-25 красавіка. "Том і Томас"**, Вялікабрытанія-Нідэрланды, прыгоды, дэтэктыў-казка — у 12.00.
Кожную суботу ў 21.00 – відэадыскатэка.
Працуе бар. Камп'ютэрныя гульні.
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

# Конкурс «Залатыя нажніцы»

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую пятніцу ў Палацы культуры прайшоў 6-ы адкрыты конкурс мадэльераў-дызайнераў "Залатыя нажніцы-2004" і 3-і гарадскі конкурс прафесійнага майстэрства ювеліраў. Абодва конкурсы арганізаваў гарвыканкам, і праходзілі яны адначасова. Білет каштаваў 3000 рублёў. Галоўная зала палаца была запоўненая амаль цалкам.**

У "Залатых нажніцах" прынялі ўдзел швейныя прадпрыемствы і індывідуальныя прадпрымальнікі горада, а таксама госці з Віцебска (ААТ "Чараўніца") і Барысава (УП "Барысаўчанка").

16 мадэльераў і творчых калектываў змагаліся ў 5-і намінацыях: "Гарадская рамантыка", "Кар'ера ў офісе і не толькі", "Шчаслівае дзяцінства", "Святочны вечар" і "Авангард".

Удзельнікі прадставілі 22 калекцыі на розны густ з рамантычнымі назвамі "Вясновыя ўзоры", "Гармонія святла", "Мара аб леце", "Акно ў Парыж", "Натхненне" і іншыя. Адзенне дэманстравалі хлопцы і дзяўчаты мадэльных агенцтваў "Імідж", "Прэстыж", клуб творчай моладзі Палаца культуры "Шарм", а таксама самі работніцы прадпрыемстваў. У намінацыі "Шчаслівае дзяцінства" гледачоў парадавалі маленькія мадэлі калектыву "Сонечныя праменьчыкі" і ўдзельнікі харэаграфічнага класа гімназіі-каледжа.

Старшыня журы, начальнік вытворчага аб'яднання "Белбыт" Галіна Мыцько сказала, абвяшчаючы вынікі, што выявіць пераможцаў было вельмі няпроста. І тым не менш першыя месцы ў розных намінацыях былі прысуджаны: УП "Барысаўчанка" за калекцыю "Дзевяты вал", фабрыцы "Бярозка" за калекцыю "Чаго хоча жанчына", УП "Сатэр" за калекцыю "Калейдаскоп", ПТВ-135 за калекцыю "Вясенні капрыз", швейнай фірме "Дзіната" за калекцыю "Koza Nostra – наша справа". Госці з Віцебска занялі 2-е месца ў намінацыі "Авангард" з калекцыяй "Уваранне".

Гран-пры конкурсу выйграў творчы калектыў Маладзечанскага ПТВ-135 за калекцыю "Славяначка". У ёй увасоблены элементы нацыянальнага адзення трох славянскіх народаў – рускіх, беларусаў і ўкраінцаў. Гэта калекцыя – стылізацыя пад нацыянальныя касцюмы.

Дыпломы і падарункі атрымалі мадэлі-дэманстранты ў трох намінацыях: "Мужчынская стандартная мадэль", "Жаночая подыумная мадэль" і "Жаночая маленькая мадэль".

Пакуль журы раілася, для гледачоў выступіла студыя моды "Авантаж" з Мінска і музычная студыя Палаца культуры "Жывы гук". Быў паказаны відэафільм пра ювелірныя вырабы маладзечанскага завода "Рамбыттэхніка" і яго структурнага падраздзялення з Салігорска.

Пераможцам конкурсу ювеліраў стаў Сяргей Піваварук з Салігорска.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

# Час выбіраць

Хутка ў Вілейцы па ініцыятыве Фундацыі імя Сцяпана Батуры і пры ўдзеле Беларускага Шуманаўскага Таварыства адбудзецца прэзентацыя кнігі "Беларусь: сцэнары рэформаў. Еўрапейскі выбар".

Істотным паказчыкам з'яўляецца амаль роўнасць колькасці "праеўрапейцаў" і "прарасіян". У гэткай сітуацыі грамадская дыскусія па пытанні шляху Беларусі напярэдадзе. Пэўна, імпульс ёй надасць нядаўна выдадзеная кніга "Беларусь: сцэнары рэформаў. Еўрапейскі выбар". Вялікая група аўтараў – вядучых беларускіх навукоўцаў у розных галінах – выказвае ў ёй свой погляд, дае свае аргументы на карысць еўрапейскага шляху для Беларусі.

Вядомае выказванне пра Расію, што яна адной нагой у Еўропе, другой – у Азіі, вельмі справядлівае да Беларусі, хоць і размяшчаецца яна ў геаграфічным цэнтры Еўропы. За час існавання незалежнай дзяржавы з 1991-га года беларускае грамадства, у адрозненне ад кіраўніцтва краіны, канчаткова не вызначылася са сваімі сімпатыямі. Пытанне, у якім накірунку варта рухацца, застаецца для яго адкрытым, а падзеі накшталт лютаўскага газавага крызісу мяняюць пункты працэнтаў у сацыялагічных апытаннях.

Згодна з апытаннем, праведзеным Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) у сакавіку гэтага года, простым наступствам газавага канфлікту стала як пагаршэнне стаўлення да Расіі, гэтак і зніжэнне інтэграцыйных настрояў.

**Дынаміка размеркавання адказаў на пытанне «Калі б сёння праходзіў рэферэндум па выбару будучага развіцця Беларусі, як бы вы прагаласавалі?»**

| Варыянты адказу | Верасень 2003 | Сакавік 2004 |
|---|---|---|
| За аб'яднанне з Расіяй | 37,9 | 30,0 |
| За інтэграцыю ў Еўрасаюз | 23,4 | 25,1 |
| І за тое, і за другое | 23,2 | 17,6 |
| Супраць і таго, і другога | 6,5 | 13,4 |

Колькасць групы "праеўрапейцаў", якія выступаюць за інтэграцыю з Еўрасаюзам, практычна не змянілася ў параўнанні з вынікамі апытання, якое адбылося ў верасні мінулага года. У той час група "прарасіян" зменшылася амаль на 8%. Значна павялічылася і колькасць тых, хто адначасова выступае і супраць аб'яднання з Расіяй, і супраць інтэграцыі ў Еўрасаюз.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне шаноўныя чытачы!

Вось як трэба было адказаць на мінулае пытанне:



Пятай фігурай ў верхнім радзе павінна быць фігура пад нумарам сем. Тлумачыцца гэта тым, што першыя чатыры фігуры падзелены на шэсць частак. Па гэтай прыкмеце пятай у верхні рад падыходзіць толькі сёмая фігура. Менавіта так і адказалі Юрый Юхневіч, Максім Захарыч, Аляксей Шчасны, Вадзім Сярпейка, Наташа Дурко, Марына Драздоўская, Нэлі Сарока, Наталля Закалінская і Кендыш Л.Н. з Маладзечна. Запрашаю ў рэдакцыю па білеты.

Вашай увазе прапаную новае заданне:

Ходам шахматнага каня, пачынаючы з літары Б, неабходна прачытаць урывак з верша Янкі Купалы.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Б[1] | і | А | Ц | Л | Т | З | і |
| А | С | Е | К | Д | В | А | О |
| Я | Р | С | Г | А | Л | Л | і |
| А | Р | Т | А | З | Э | Р | Р |
| Я | К | Ы | Ў | А | К | М | А |
| А | Ч | Н | А | Т | А | У | А |
| В | А | З | К | Г | Ь | Т | А |
| А | Ж | Ы | М | Ы | Я | К | С |

Свае адказы дасылайце ў дзесяцідзённы тэрмін з дня выхаду нумара, да 3 мая. Адказы прымаюцца толькі ў пісьмовай форме, з разборліва напісанымі імем і прозвішчам. І, калі ласка, не забывайце, калі адпраўляеце адказ у канверце, ставіць паметку: «Зарабі білеты ў кіно».

**У першы раз падрыхтаваў Валянцін ЦІШКО.**

■ ІМЯНІНЫ

**23 красавіка**
**Праваслаўныя**: Аляксандра, Максіма, Фёдара, Якава. **Каталіцкія**: Войцэха, Ежы.
**24 красавіка**
**Праваслаўныя**: Анціпа, Івана, Якава. **Каталіцкія**: Аляксандра, Рыгора.
**25 красавіка**
**Праваслаўныя**: Афанасіі, Васіля, Зіновія, Івана. **Каталіцкія**: Марка, Яраслава.
**26 красавіка**
**Праваслаўныя**: Артамона. **Каталіцкія**: Мажэны, Марцэліны, Марыі.
**27 красавіка**
**Праваслаўныя**: Антона, Астапа, Марціна. **Каталіцкія**: Зіты, Тэафіла.
**28 красавіка**
**Праваслаўныя**: Васілісы, Анастасіі, Андрэя, Кандрата, Трафіма, Віктара. **Каталіцкія**: Валерыі, Паўла, Пятра.
**29 красавіка**
**Праваслаўныя**: Васілісы, Галіны, Ірыны, Фядоры, Леаніда. **Каталіцкія**: Роберта.

# ЗНАЁМСТВЫ

Мужчына, 29/175/75, пазнаёміцца з жанчынай для стварэння сям'і. 222310, Маладзечна-6, п/п МС 0693516.

Мужчына, 45/181/80, пазнаёміцца з простай, звычайнай жанчынай. 222310, Маладзечна, галоўпаштамт, п/п МС 0297914.

Мужчына, 50/170/70, пазнаёміцца з жанчынай для стварэння сям'і, без дзяцей. Жыллём забяспечаны. 222310, Малаздечна-6, п/п МС 0367626.

Святлана, 37/158/56, пазнаёміцца з сумленным удаўцом (дзеці не перашкода). 222310, Маладзечна-1, п/п МС 1138672.

Разведзены мужчына пазнаёміцца з дзяўчынай 25-30 гадоў для стварэння сям'і. 222310, Маладзечна-4 п/п МС 0194258.

# Купон 17

рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

### Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Першыя вітаміны

Калісьці лічылася, што новы год вясной пачынаецца. Абуджаецца прырода, жыццё як бы абнаўляецца. А з'явілася зяляніна – канец цяжкаму паўгалоднаму часу, калі ў засеках пуста, а на градках няма яшчэ нічога. Пры дапамозе траў можна сваё харчаванне рабіць больш разнастайным. Прыведзеныя рэцэпты салатаў паслужаць вам асновай, зыходным пунктам на шляху да стварэння сваіх "фірменных страў", якія абагацяць ваш арганізм вітамінамі.

**Салата з крапівы.** Лісце крапівы прамыць халоднай вадой, апарыць кіпенем і астудзіць. Нарэзаць, дабавіць соль, перац, дробна пасечанае яйка, адваранае ўкрутую, смятану або маянэз, усё добра перамяшаць, упрыгожыць зяленівам і чвэрткамі яйка.

**Салата з дзьмухаўцоў з цыбуляй.** Лісце дзьмухаўцоў вытрымаць паўгадзіны ў падсоленай вадзе, затым здрабніць, дабавіць пятрушку і зялёную цыбулю, заправіць алеем, соллю, воцатам, перцам, перамяшаць і пасыпаць кропам.

**Салата з трыпутніку.** Лісце трыпутніку і крапівы старанна вымыць, апусціць на 1 хвіліну ў кіпень, даць сцячы вадзе, здрабніць, дабавіць цыбулю, хрэн, соль і воцат па смаку. Пасыпаць пакрышаным вараным яйкам, паліць смятанай.

**Салата з лебяды з капустай.** Лебяду перабраць, старанна памыць, дробна пасячы, змяшаць з нарэзанай цыбуляй, кіслай капустай, морквай, нацёртай на тарцы, заправіць соллю, алеем або смятанай (маянэзам).

**Салата са шчаўя і морквы.** Моркву паскрэбці і нацерці на дробнай тарцы. Шчаўе перабраць, добра прамыць і нарэзаць. Цыбулю і пятрушку дробна пасячы і расцерці з соллю. Прыгатаваць смятанны соус: у добра ўзбітую смятану пакласці кроп, алей, сок лімона і соль, усё перамяшаць. Заліць агародніну соусам.

